Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ВЫХОДЗІЦЬ ТРОЙЧЫ У ТЫДЗЕНЬ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Год I. Субота, 7 чэрвеня 1919 г. № 18.

# Справы Украіны.

Апошнія рэляцыі польскага генэральнага штабу паведамляюць нас аб тым, што украінцы на ўсем ўсходня-галіцыйскім фронце разьбіты і адступаюць. Палажэньне іх, па польскім рэляцыям, рысуецца як вельмі крытычнае. Ды ян напэўна так і ёсьць. Прыціснутыя з двух бакоў: з аднае стараны — бальшавіцкай Вялікай Расеяй, а з другой—Польшчай—гэтымі адвечнымі ворагамі Украінцаў—украінцы не вытрымалі барацьбы на два фронты, бо на іх напалі у той час, калі Украіна яшчэ не стаяла на цьвёрдых нагах, а хісталася у стораны, не знайшоўшы сярэдзіны паміж Скарападчынай і бальшавізмам.

Каго вінаваціць ў цяперашнім трагічным палажэньні украінскіх спраў?

На гэтае пытаньне дасьць свой цьвёрды адказ гісторыя. Нам—сучасьнікам ўсяго, што дзеецца на сьвеці ў цяперашні час, трудна справядліва ацэніць падзеі. Але ўсё-ж мы навінны так ці інш падайсьці да пытаньня, без прэтэнзы, што высказаны намі пагляд будзе адзіным справядлівым.

Украіна, як і розныя іншыя часткі быўшай Расейскай Імпэрыі, с першых дзён рэвалюцыі дамагалася ад расейскага ураду гарантыі, забязпэчываўшай тую ці іншую яе незалежнасьць.

Перад мінiстэрствам кн. Львова Украіна праз сваіх дэлегатаў дамагалася ад Расеі аўтаноміі. Як раз ў той самы час, як дэлегацыя украінцаў падавала кн. Львову сваю дэкларацыю, падавалі дэкларацыю і дэлегаты ад першага беларускага з'езду. Украінцам і нам—беларусам—кн. Львоў ў адказ на дэкларацыі нічога добрага не сказаў, абецаўся толькі і нам і украінцам передаць дэкларацыі ў нейкі стол, куды ён групіруе ўсе аднальковыя справы. Кн Львоў, мусі быць, глядзеў на нацыянальныя пытаньня, як глядзяць на іх і да апошняга часу многія маскоуцы, што гэта дзела кучкі інтэлігентаў і што розныя народы быўшае Расеі ніякіх аутономій і тым болей незалежнасьці ня хочуць.

Дэклярацыі папалі над сукно і па іх пытаньням не было нічога зроблено.

Такія-ж самыя адносіны да нацыянальных пытаньняў праявіў потым і Керенскі з сваім міністэрствам, у склад катораго, як і ў Львова, увайшлі амаль што адны маскоўцы, каторым пытаньня нацыянальнаго характэра былі далёкімі і рысаваліся ў тым духу, як калісь пісало «Новое Время», вёўшае барацьбу з дамаганьнямі «Инородцевъ».

Тым часам, Украінцы і іншыя народы, не дабіўшыся ад Львова і Керэнскага прызнаньня сваіх праваў, сталі самачынна рабіць з'езды, найбольш—франтавыя, і на гэтых з'ездах праводзіць ў жыцьцё сваі пытаньня. Украінцы адны з першых арганізавалі свае войска, каторое павінна было стаяць на граніцах Аўстры. У гэты час украінцы яшчэ не парывалі сувязі з Расеяй і гатаваліся супольна з Расеяй бараніцца ад агульнага ворага — немцаў і аўстрыйцау.

Бальшавіцкі пэрэварот і хаос, які ім быў вызван у Расеі, прымусіў украінцаў разарваць усякія сувязі з Расеяй і абвесьціць поуную незалежнасьць ад Расеі.

Далейшая гісторыя украінскагэ адраджэньня пайшла не тым шляхам, як гэтага хацелася яго стварыцелям. Нямецкая аккупацыя зрабіла на Украіне пэрэварот і замест Украінскай Рады і іе міністрау паставіла над Украінай гэтмана.

Усе законы аб зямлі, і па іншым справам, былі скасованы. Пачалася рэстаурацыя усяго таго, што вядома пад назвай «стары рэжым», — толькі у Украінскім разьмеры.

Уваскрослі надзеі памешчыкау, больш чужэстранцау, як і у нас на Беларусі, трымаушых народ у няволі. Гэтманшчына пайшла проціў народу і трымалася нямецкім штыкам. Калі-ж гэты штык аслабеу і быў выбіты з рук на Заходнім Фронце, то вядомаму Петлюры нічого не стоіло, падняушы паустаньне скінуць гэтмана, замест каторага стала правіць Украінай так званая «дырэкторыя».

На яе долю выйшла цяжкая задача.

Бальшавікі, вёушыя са Скарападзкім перэгаворы аб граніцах с Украінай, не абвяўшы вайны, без ніякага поваду, адкрылі, ваенныя выступы і сталі хутка захапіваць усходнюю і пауночную Украіну.

Так сама палякі накінуліся на Украінцау у Галіцы.

Тэррыторыя Украіны цяпер заваёвана. Дырэкторыя асталася без войска, без народу і—без Украіны.

Калі верыць у моц ідэй, а не ў моц фізычнай сілы, то можна не вельмі плакаць аб тым, што зрабілася з Украінай. Яна павінна васкрэснуць. Шкада толькі, што некаторыя людзі і нават цэлыя народы да апошняго часу не адмауляюцца навязваць сваю волю суседзям фізычнай сілаю. Але-ж нехай яны не забываюцца, што проціў гэтай фізычнай сілы стаіць яшчэ большая сіла дзэржау Антанты, напісаушых на сваім штандары: «самаазначэньне народу!»

Гэтая вялікая ідэя, падтрымленая вайсковай сілай дзаржау Антанты, заставіць і ворагоу самаазначэньня Украіны і іншых народау, уйняць свой ваенны пыл і раскаяцца у тым, што імі было зроблена, каб загубіць Украіну.

Беларусы, каторыя так сама змагаюцца за сваю незалежнасьць, заусёды будуць на старане Украіны і усех тых, хто нясе страты і церпіць уціск ад сваіх дужэйшых ворагау.

Хай жыве незалежная і непадзельная Украіна!

**Лук—ан.**



*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць калішча часу пахваліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,—ніхай ен будзе ласкау не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю.*

